# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

N 15

1 Усебеларускаn сельска-гаспадарчая выстаўка. — ПОМНІК ЛЕНІНУ



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

# КНІЖКА-ПОШТАЙ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

— ВЫСЫЛАЕ ЎСЕ КНІЖКІ НА БЕЛАРУСКАЙ, ЯЎРЭЙСКАЙ, РАСІЙСКАЙ, ПОЛЬСКАЙ, ЛІТОЎСКАЙ, ЛАТЫСКАЙ МОВАХ. . . . . . . . .

— ВЫКОНВАЕ ЎСЕ ЗАКАЗЫ НА КНІГІ, ЯКІЯ МАЮЦЦА НА КНІЖНЫХ СКЛАДАХ БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА, НА ДРУГІ ДЗЕНЬ. . . . . . .

— ДАЕ 10% СКІДКІ ШКОЛАМ, НАРДОМАМ, БІБЛІОТЭКАМ, ХАТАМ-ЧЫТАЛЬНЯМ І ПРЫ КОЛЕКТЫЎНАЙ ВЫПІСЦЫ. . . . . . . .

— ПРЫ ПЕРАСЫЛЦЫ РАЗАМ З ЗАКАЗАМ УСІХ ГРОШАЙ—ПЕРАСЫЛКУ—„КНІЖКА-ПОШТАЙ“—БЯРЭ НА СВОЙ КОШТ. . . . . . .

— НА ЗАКАЗЫ ДА 1 РУБЛЯ АБАВЯЗКОВА РАЗАМ З ЗАКАЗАМ ВЫСЫЛАЮЦЦА ГРОШЫ, НА ЗАКАЗЫ ЗВЫШ 1 РУБЛЯ ТРЭБА ПРЫСЫЛАЦЬ 25% КАШТОЎНАСЬЦІ ЗАКАЗУ. . . . . . . . . . . . .

— „КНІЖКА-ПОШТАЙ“—ЗАРАЗ-ЖА АДКАЗВАЕ НА ЎСЕ ЗАПЫТАНЬНІ АБ НОВЫХ, ШТО ВЫХОДЗЯЦЬ, КНІЖКАХ. . . . . . . . . . . . .

**ЗАКАЗЫ ПРЫСЫЛАЙЦЕ ПА АДРАСУ: МЕНСК, БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА, КНІЖКА-ПОШТАЙ**

## ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК НА ГОД 1930

**ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК—**

**Абагульвае** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйнаму будаўніцтву і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**Вывучае** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных арганізацый, абгаварвае мэтоды і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**Дае** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыста матэрыялы—факты, лічбы, па пытаньнях бягучай працы.

**Дапамагае** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сакратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўнікам парт. асьветы, групоргам, зьвяноргам і інш.

**Асьвятляе** чарговыя пытаньні комсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**Ставіць** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыяд соцыялістычнай рэконструкцыі.

**Рэгулярна зьмяшчае** крытыку і бібліографію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**Зьмяшчае** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях.

**КОЖНАЯ** гарадзкая і вясковая партыйная і комсамольская ячэйка, кожны агітатар, прапагандысты, цэхавы, групавы, зьвенавы організатар, кожны партыйны актывісты—павінен падпісацца на часопіс „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“.

Адрас рэдакцыі: МЕНСК, вул. К. Маркса, 14, ЦК КП(б)Б. Рэдакц. часопісу „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“

Орган ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы на м-ц

### УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 25 кап. |
| „ 3 месяцы | 75 кап. |
| „ 6 месяцаў | 1 р. 50 кап. |
| „ 1 год | 2 р. 75 кап. |

**Кошт асобнага нумару—15 кап.**

### ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:

Бюро падпіскі Белдзяржвыдавецтва—**Менск, Пляц Волі, д. № 5.** Аддзел падпіскі Дзяржвыдавецтва РСФСР—**Менск, Савецкая, 54** і усе паштовыя аддзяленьні і лістаносцы.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

N 15
10 жніўня 1930
АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 79.
Тэл. 7-41

## СЕЛ.-ГАС. ВЫСТАЎКА
## ПАВІЛЬЁН ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ

Фото Фл. Семянін.



# Хвіліна



Апавяданьне М. ЗАРЭЦКАГА
Малюнкі А. БУЛЫЧОВА

СТАРШЫНЯ праваркому ціхім ад зморы і нэрвовага напружаньня голасам выклікаў чарговага кандыдата:

— Кастрэў Мікола!

а стала падышоў сярэдняга веку мужчынаі з ахайнай чарнявай бародкай, з вострымі ўсьмешлівымі вачмі з чмарай радзімай над левым брывом.

Ста шыня паволі ўзьняў ад паперы марудны погляд і зірнуў на Міколу Кастрова. Урачыста-спакойны твар яго застыў у раптоўным акамяненьні, вочы зайстрыліся рэзкім сталёвым агнём і —

— завыў, застагнаў па заўгольлю разьюшаны вецер, шумархнуў па стрэхах саломай і клок яе—мокрае, цьвілае — нахабна кінуў пад ногі, як глумлівы паскудны падарунак. У гэтую ноч усё было чорнае, чужое, варожае — таму і вецер, чулася, быў іхны, ня свой. і прыляцеў ён сюды з бяздоннае цемры (з мокрых сьцюдзёных палёў) ня іначай затым, каб сваім лютым шалам ускалануць. узбучыць мора злавеснай трывогі, застойна зьвеслае над сялом.

Камісар адчыніў фортку і вышаў на вуліцу.

Скрозь лямант ветру гукі страляніны прабіваліся глуха і няпэўна. Не згадаць было, ці далёка-далёка аднеслася крывавая мяжа. ці мо' вось тут блізка, пад самым сялом, здрадліва прытулілася чорная небясьпека.

П вуліцах ужо віхравала трывожная сумятня. Стаялі абозы, гатовыя да адступленьня — нецярпліва порскалі коні, дакучна рыпалі, сморгаючыся на месцы, вазы, мокра пляскаліся ў цемры, у ветры азызлыя галасы абозьнікаў. З жвавым пярэклікам прабеглі паўз плот тэлефоністыя—прапішчэла жаласна і працавіта шпулька. на якую намотваліся правады. Недзе далека (а мо' і блізка?) нехта з трагічнай настойнасьцю некага клікаў.

Толькі што ў штабе атрымалі загад з дывізіі — адступіць. Штаб палка ўжо цалком зьвінуўся і чакаў трэцяе роты, якая ішла ў рэзэрв — разам з ёй мела адыходзіць штабная каманда.

Камісар дайшоў амаль што да краю сяла, і нарэшце пачуў паміж узвываў ветру далёкі (а мо' і блізкі зусім?) перабор хліпкіх ушчклівых крокаў. І адразу-ж. над самым вухам, выбухнулі парваныя галасы.

Ён спыніўся.

— Камандзір трэцяе роты!

— Слухаю, таварыш камісар!.. Рота... стой!..

Нешта бязладна целяпнулася ў цемры і змоўкла. Дымнай плямай вызначылася непамерна-вялікая постаць камандзіра роты.

— Ну, што?

— Дазвольце далажыць, таварыш камісар. Згодна загаду, зьявіўся да штабу палка. Белыя наступаюць і неўзабаве павінны быць тут.

— Як рота?

Камандзір адказаў з жорскай нялюдзкай сур'ёзнасьцю (на вачох у сьмерці родзіцца гэта сур'ёзнасьць):

— Пяцьдзесят сем чалавек пакінула строй... Рэшта—змардаваныя да краю. Але ў прыгодзе рота яшчэ здолее паказаць сваю баявітасьць.

— Добра. Штаб палка на тым канцы вёскі. Скажэце таварышу камандзіру, каб чакалі мяне за сялом.

— Слухаю!

Камісар вярнуўся назад, на сярэдзіну сяла і ўвайшоў у хату з зырка асьветленымі вокнамі.

Тут усё было напагатове. Сакратар у поўным страі сядзеў на скрыні сакрэтных папер і з хаплівай пасьпешнасьцю (быццам ня ўправіцца) курыў сваю люльку. Ля парогу стаяў веставы—з вінтоўкаю за плячыма.

А на стале, пад стараддаўнай вісучай лямпай яшчэ ў бясьпечным спакоі ляжала разгорнутая карта ваенных дзеяньняў і на ёй самотна стыла забытая шклянка гарбаты.

Камісар загадаў:

— Таварыш сакратар! Зараз мы выступаем. З усім сваім барахлом ідзеце да начальніка штаба...

Потым—веставому:

— Вы паедзеце разам з ім, і, як усё там будзе гатова, прыскачаце да мяне.

— Слухаю..

Камісар астаўся адзін. Колькі хвілін задуменна сігаў па пакоі, потым, нібы ўспомніўшы што, схапянуўся і падышоў да стала. На карце шпількамі адзначана была лінія фронту. Камісар сеў за стол, машынальна выпіў сьцюдзёную гарбату (бо замінала) і ўдаўся ў розгляды стратэгічных плянаў.



Падступіў да яго блізка-блізка і з тонкай усьмешкаю кінуў у твар яму:—„Падлюга! Бальшавіцкая погань!!!“

На дварэ варожы вецер завінаўся што раз з большай лютасьцю і нахабствам. Ён гадзюкай віўся навокал хаты, у бясьсільнай злосьці грыз мокрыя вуглы, драў на страсе салому і выў як падбіты сабака.

А ў хаце стаяла зусім лагодная, зусім далёкая ад вайны ад завірухі, ціша.

Вецер прынёс і ўпіхнуў у хату глухое зазыўнае іржаньне. Гэта конь—верны таварыш—настойна клікаў свайго гаспадара.

Камісар не пачуў. Сядзеў — нярухомы, акамянелы, цалкам углыбіўшыся ў свае думкі. І толькі раптоўная цішыня за вакном (на момант адляцеў некуды ці моў змоўк, зьнясілены, вецер) абудзіла яго.



Старшыня паволі ўзьняў ад паперы марудны погляд і зірнуў на Міколу Кастрова.

Ён прыслухаўся. У гэтым неспадзяваным зацішшы ня чуваць было абыклых гукаў паходнага мятушэньня. Мабыць, штаб цалкам ужо выбраўся за сяло.

— Чаму-ж няма веставога?

І нібы ў адказ яму раптам выбіўся за сьцяной конскі тупат. (Не адзін конь, а некалькі — мабыць, нехта прыехаў яшчэ з веставым).

Загрукатала ў сенцах. Камісар з чаканьнем глядзеў на дзьверы. І дзьверы расчыніліся—ураз, адным рэзкім парыўчатым махам. І ў напята расчыненых дзьвярох (таксама ўраз, адным махам) вырасьлі тры вінтоўкі і тры ў чужой форме салдаты. Вінтоўкі з дзікай выразнасьцю глядзелі ў яго чорнымі рулямі.

— Рукі ўгору!..

Камісар хапянуўся быў за кабуру, але суняўся (што ён можа зрабіць?). І рук не падняў—сядзеў у той паставе, у якой засьпелі яго.

Потым—штурхаючы, тузаючы—павялі яго ў штаб.

— Камісара спаймалі!

І рагаталі, і зьдзекваліся з яго, хто толькі хацеў.

Далажылі камандзіру, і да яго вышаў афіцэр—голены, белы, з вострымі ўсьмешлівымі вачмі, з чмарай радзімкай над левым брывом. Афіцэр падступіў да яго блізка-блізка і з тонкай усьмешкай (колькі было ў ёй атруты!) кінуў у твар яму:

— Падлюга! Бальшавіцкая погань! Сьвіньня!..

Камісар ведаў, што будзе, і хацеў, каб было скарэй. Таму ён з маўклівай спакойнасьцю плюнуў у вострыя ўсьмешлівыя афіцэравы вочы.

Афіцэр—ашалелы, дзікі — выхапіў з кабуры наган. Але не страляў. Ён біў яго перш ручкай нагана, а потым кінуў наган і, як зьвер, уцупіўся ў яго кіпцюрамі.

Камісара не стралялі адразу. Колькі гадзін давялося яму прасядзець з іншымі палоннымі ў цёмным халодным сьвірне. Там упацёмку, па голасе пазнаў яго веставы і расказаў: як злавілі яго, калі ён ехаў далажыць свайму камісару, што ўсё гатова да адыходу.

А пад раньне перайшлі ў наступленьне чырвоныя, адбілі тое сяло і —

— прайшла доўгая, як вечнасьць хвіліна. Яна мулкім ражном захрасла ў пакоі, да болю нагнула людзкія пачуцьці, скруціла іх у адно палкае нясьцерпнае чаканьне. На задніх лавах пачала падымацца публіка. Па ўсім пакоі пайшоў перабойнымі хвалямі нэрвовы напружаны шопат.

Тады Мікола Кастроў моўчкі заварнуўся і пайшоў ад стала, панура схіліўшыся пад цяжарам свайго маўклівага прыгавору.

## У ДОНБАСКІХ КАПАЛЬНЯХ



**У штрэку шахты № 12 (Хрустальскае рудакіраўніцтва)**

# ПАД ГУКІ МАРСЭЛЬЕЗЫ

## НАРЫС П'ЕРА ДЗЮКЛЁ

Грымяць барабаны. Звонка ліюцца гукі ваенных труб і літаўраў, зьліваючыся з песьнямі жаўранкаў у сінім небе над Парыжам. Ад пляцу Згоды—таго пляцу, дзе ў гады Вялікае француcкае рэволюцыі скаціліся з памосту галовы Людовіка шаснаццатага і Мары Антуанэты—уздоўж шырокіх Элізэйскіх палёў, са стрэльбамі на шлейцы, сьціснутымі шарэнгамі ідуць колёны войск францускае рэспублікі: сэнэгальскія стралкі, легіянэры, спаісы, артылерыя і танкі.

А там далей, у самым канцы Элізэйскіх палёў, каля трыумфальнае аркі, што на зорным пляцу—там, каля магілы „невядомага салдата", які пахаваны ў сэрцы Парыжа і зьяўляецца сымболем мільёнаў загінуўшых у імпэрыялістычную вайну за інтарэсы банкіраў людзей—там ужо сабраліся прымаць парад міністры і фабрыканты ў высокіх чорных цыліндрах і белых пальчатках, у расшытых золатам мундзірах з зоркамі і ордэнамі генэралы, вялікасьвецкія дамы ў дыямэнтах і брыльянтах...

Моўчкі праходзяць сьціснутыя шарэнгі салдат каля магілы „невядомага салдата", каля магілы лісьліва ўвабранае ў краскі і гірлянды, каля магілы, перад якою дзень і ноч цепліцца „вечны агонь". Дамы ўсьміхаюцца, крытычна аглядаючы туалет сваіх суседак; важныя паны ў цыліндрах стомлена пазяхаюць, думаючы пра сытае сьнеданьне ў лепшых рэсторанах Парыжу; шматлікія буржуа-ранцье, шпалерамі стоячы ўздоўж шырокіх авеню, узьнята вітаюць батальёны, што праходзяць перад імі.

Дзіва што! Од-этая-ж моцная армія цяпер служыць ім, абастрымана-пахмурых тварах салдат, што ідуць з вінтоўкамі на шлейцы.

Увечары Парыж весяліўся. На пляцох, на скрыжаваньнях вуліц, у скверах і ў садох ігралі оркестры, заліваліся скрыпкі, брынчэлі мандаліны і гітары, узьвіваліся ракеты і фэйерверкі, асьвятляючы сваім асьляпляльным бляскам вячэрнюю цемру гораду. Шматлікія кафэ да позьняга часу былі поўны вясёлых наведвальнікаў, а на шырокіх бульварах ад пляцу Мадлен да самых далёкіх глыбінь Монмартра панавала вакханалія. На вуліцах танцы, сьмех, крыкі, сэрпантын і конфэці.

Праўда, весяліліся розна. Адны—рабочыя і работніцы, дробныя службоўцы, салдаты-адпускнікі крычалі і сьмяяліся, сьпявалі і скакалі, каб забыцца, каб сьцерці хоць на часіну з памяці душныя мансарды, недаяданьні, беспрацоўе. Яны весяліліся і пілі таннае віно, каб ня думаць пра наступны дзень, пра зьдзекі і эксплёатацыю, што чакае іх на фабрыках і заводах, у канторах і казармах.

Другія—багатыя людзі—банкіры і фабрыканты, буйныя земляўласьнікі і міністры—яны весяляцца іначай. У раскошных рэсторанах лілося рэчкаю шампанскае, пяялі скрыпкі танго і чарльстон, продажніцкі ўсьміхаліся апранутыя ў шаўкі, абвешаныя ў дарагія каменьні куртызанкі. Ім ня было чаго забываць, яны са спакойнаю радасьцю маглі думаць пра заўтрашні дзень. У мінулым у іх былі ўдачлівыя біржавыя комбінацыі, шматмільённыя прыбыткі, а „заўтра" дакляравала ім новыя




**Элізэйскія палі ў Парыжы, дзе адбываецца парад войск у дзень „нацыянальнага сьвята"; у канцы відаць пляц Згоды—месца пакараньня сьмерцю Людовіка XVI.**

раняе іхныя інтарэсы. Пад абаронаю іхных штыхоў зусім спакойна можна займацца сваімі справамі—эксплёатаваць фабрыкі і заводы, спэкуляваць на біржы, раз у поўгода рэзаць купоны абліґацый, што даюць добрыя процанты.

Праўда, армія ўжо не такая, як была раней. Бунты, паўстаньні ўспыхваюць то там, то тут... Ох, бо гэтыя комуністыя! Не дають яны спакойна спаць фабрыкантам і абшарнікам, крамнікам і спэкулянтам.

Нацыянальнае сьвята францускае рэспублік 14 ліпеня—дзень, калі была ўзята Бастылія—у самым разгары. Урачыста нясуцца ў сіневатае неба гукі Марсэльезы—некалішняга гордага гімна свабоды, цяпер пераможнага марша францускага, што покуль што яшчэ пануе, імпэрыялізму.

А войскі ідуць. Колёна за колёнаю праходзяць салдаты перад магілаю свайго невядомага таварыша.

— Так было і так будзе,—здавалася гавораць трохкаляровыя сьцягі, што палыхаюцца на ветры, генэральскія мундзіры, чорныя цыліндры дыплёматаў.

— Так было, так ёсьць, але так ня будзе,—чыталася на мільёны, новыя лякаваныя аўтомобілі, новыя яхты, вілы, і замкі ў Пірынейскіх гарах ці на беразе блакітнага Міжземнага мора.

Сьпі і не варочайся ў сваёй магіле нявядомы салдат з музыкаю пахаваны пад мармуроваю плітою трыумфальнае аркі. Тваім імем яшчэ доўга спадзяюцца спэкуляваць гэтыя, у фраках і ў смокінгах, сытыя людзі. Тваім імем яшчэ доўга спадзяюцца яны гнаць такіх самых, які быў і ты—рабочых і сялян—пад кулямётны агонь, пад кулі і снарады. Няхай жыве Францыя—рай для багатых, пекла для бедных...

А шалёная строма весялілася, усё шырылася і шырылася, заліваючы сабою ўсе самыя глухія, самыя забытыя вуліцы францускае сталіцы. Яшчэ доўга, да познага часу бурная вясёласьць, сьпевы і крыкі лёталі ў паветры, парушаючы цішыню душнае, летняе ночы.

* * *

Танцавалі і на пляцу Бастыліі. На тым пляцу, на сярэдзіне якога стаяла некалькі пахмурая турма, абведзеная валам з цяжкімі скрыпучымі варотамі, з душнымі, глыбокімі казэма-

гамі. У гэтую турму адпраўляліся на вечнае, ці на часовае зьняволеньне, усе непатрэбныя „яго вялікасьці каралю Францыі і Наварры“. І ворагі каралеўскае ўлады, і правінёныя чымнебудзь бліскучыя „шэвалье“, і поэты, што ня досыць добра адгукнуліся ў вершах пра „сільных міра сяго“, і нават мужы прыдворных фрэйлін, то сваёю прысутнасьцю перашкаджалі каралёвым забаўкам—паводле загаду караля, усе мелі простую дарогу да каралеўскае турмы.

Пасьля прышла Вялікая француская рэволюцыя. Буржуазія скінула ўладу дваран для таго, каб самой стаць на стырне, для таго, каб самой багацець і нажывацца. І вось 14 ліпеня 1793 г з дапамогаю парыскага рабочага люду, які таксама ня любіў монархіі—была ўзята штурмам Бастылія, гняздо ўлады каралёў, сымболь рабства і бяспраўя. На тым месцы, дзе была разбурана дашчэнту турма — пасьля была пастаўлена „колёна Свабоды“—сымболь перамогі буржуазіі над дваранств-ам, сымболь новага рабства для працоўных. А 14 ліпеня стала нацыянальным француcкім сьвятам—сьвятам францускае буржуазіі, сьвятам францускага наступальнага імпэрыялізму.

Прайшло шмат гадоў. Шмат рэволюцый, шмат народных паўстаньняў бачыў у сваіх сьценах стары Парыж. Зьмяняліся формы ўлады—то монархіі, то рэспублікі, то консульства, то дырэкторыі. Зьмяняліся міністэрствы, раскідаліся і зноў організоўваліся розныя політычныя партыі, мацнела і багацела буржуазія, рос і загартоўваўся ў клясавых бойках парыскі пролетарыят. Для буржуазіі Марсэльеза—некалі гімн свабоды—зрабілася сьпевам нажывы, спэкуляцыі і нацыянальнага шовінізму. Для буржуазіі дзень 14 ліпеня—некалі сьвята рэволюцыйных перамог—зрабіўся днём падрыхтоўкі да новых войн, да новых захопаў.




**Магіла „невядомага салдата“ на „пляцу Зоркі“ ў Парыжы.**

Пролетарыят-жа Францыі ўжо даўно адмовіўся і ад Марсэльезы і ад дню 14 ліпеня. Яго гімнам стаў Інтэрнацыянал—вялікі гімн рабочае клясы, заклік да клясавае барацьбы і перамог. Яго-ж сапраўдным сьвятам, якое зьмяце сьвята буржуазіі, будзе дзень францускага Кастрычніка—Чырвонага Кастрычніка.

---

# НА ВЫСТАЎЦЫ

**ЦІШКА ГАРТНЫ**

Адзін ля другога—
У рады павільёны—
У высі кідаюць
Жывыя імкненьні...
Пялешчуцца сонцамі
Ўкол лямпіёны,
Купаючы працы
Узрост—дасягненьні.

* * *

Упартымі крокамі,
Роўнай дарогай,
Дзесятак гадоў
Нашай творчай работы
Рабочыя гушчы
Нясьлі перамогу,
Ўздымалі нам блізкай
Комуны высоты.

* * *

Іх посьпехі яваць
Багатыя плёны,
Сапраўднасьцю яркаю
Доўгія мары.
Краіне Саветаў
Складае законы
Супольнае працы
Ваяк-пролетары.

* * *

Год з году,
Дзень со дню
Растуць заваёвы
Адноўленых фабрык
І новых заводаў,
І моцныя
Шырэй ды глыбей
Асновы
Грамады працоўных
Комуне падводзяць.

* * *

У небыць глухую,
У бездань зьнішчэньня
Варожыя станы
Адходзяць з дакорам,
Паўстаўшая кляса
Нясе адамшчэньне
За векі пагарды,
За векі пакоры.

* * *

Нячуйнымі тэмпамі
Крочыць наперад
Краіна рабочых
Пад сьцягам чырвоным
І суліць рашучым
Ды цьвёрдым намерам
Пазьбіць капіталу
Струхлелыя троны.

* * *

Адзін ля другога—
У рады павільёны,
І іскрамі ў сэрца
Ударяюць аншлагі,
Будоўлі вялікай
Будоўлі развойнай
Вяшчаюць пасьпехі
Чырвоныя сьцягі.

* * *

На цьвёрдым падмурку
Колгаснага руху
Узрастае буйная
Скрозь гаспадарка;
Мінулыя зьявы—
Іх вецер разьдмухаў,
Ім песьню адходную
Воран адкаркаў.

* * *

Разгорнутым строем,
Сустрэчнасьцю плянаў
Ўсё вышай ды вышай
Растуць дасягненьні.
Іх ўзрокам празрыстым
У вечар, і ў раньне
Аглядае мудра
Важаты наш—
ЛЕНІН.

* * *

Указна рукою
Ён шлях адмячае:
Наперад!
Наперад!
З ваёўным задзёрам!
Разворвайце межы.—
Хай трактар ступае,
Распальвайце
Працы натхненнае
Горын.

* * *

Выразныя лічбы
Глядзяць з пяцілеткі.
Агнямі бліскучымі
Зораць паходу.
Павысіць,
Папоўніць
Будоўлі наметкі,
Наметкі наступнага,
Трэцяга году.

* * *

Сустрэньце яго
Раскалыханым уздымам,
Узнёслым экстазам
Яго агарнеце;
І з мэндлем пшаніцы,
І з доменным дымам
Ударныя тэмпы
Гартоўнасьцю
Зьлейце.

* * *

Адзін ля другога
У рады павільёны
У высі кідаюць
Жывыя імкненьні...
Мы чуем твой голас
Прызыўны,
Кіроўны
Наш мудры настаўнік,
Важаты наш—
ЛЕНІН!

12/IX—30 г.



# НОВЫ КРАЙ ТУТ ПАЎСТАЎ З НАВАЛЬНІЦ...

Нарыс ПАСЬЛЯДОВІЧА. Фото СЕМЕНЯКІ.

Адзванілі званы на званіцах
І збуцьвелі, паніклі крыжы—
Знакі цемры-імжы.
Новы край тут паўстаў з наваль-
ніцаў,
Ззбурлілі другія крыніцы
На шырокай Савецкай мяжы.

*Якуб Колас.*

Яшчэ толькі летась тут была пасека і безнадзейная пустэча. Паміж смольных карчоў, якія сотні год смакталі сок зямлі, дзе-ні-дзе, як лапікі на рваным сурдуце, былі відаць кавалкі жыта. Дробныя каласкі дачасна выцьвілі ад гарачыні і ледзь трымаліся на тонкім сьцябле.

— Гіблая зямля!—казалі праежджыя, гледзячы на пескавыя ўзгоркі. Тут насеньня не зьбярэш, а ня то што з сям'ёю карміцца.

Раніцою аднаго дня на гэтай пустой пасецы, як мурашкі, заварушыліся людзі з піламі, сякерамі, рыдлёўкамі. Пачаўся штурм карчэўя. Трашчала, падавалася сіле людзей смольнае карэньне.

Сьледам за карчавальнікамі пайшлі ратаі. Параконнымі плугамі ўзьнімалі цаліну, рэзалі пераплеценую карэньнем зямлю дыскавымі баронамі.

Потым аграномы парадкавалі заваяваную цяжкай работай зямлю. Разам з імі прышлі рабочыя-будаўнікі. Абозы лесаматэрыялаў, цэглы, цэманту пачалі расьці з зямлі living?

— Што гэта за выдумкі?—пыталіся праежджыя ў рабочых.— Стары Менск будзе перабірацца сюды, ці што?

— А хіба вы ня ведаеце? Сорам, сорам! Тут-жа выстаўка будзе. Першая ў БССР.

* * *

Людзі, якія едуць у Менск праз Камароўку, калі яны ня былі ў горадзе больш году, зьдзівяцца, убачыўшы тое, што сталася з ваколіцы сталіцы.

Гэтымі днямі два колгасьнікі Чурынец і Дзівак з-пад Плешчаніц, уяжджаючы ў Менск, „захварэлі“ на няведаньне. У канцы горада на шырокім Барысаўскім тракце яны з гадзіну спрачаліся, размахваючы адзін перад адным рукамі. Ад таго месца, дзе яны саскочылі, суняўшы коняй, з вазоў, як абрус на ўзьбярэжжы рэчкі, слалася шырокая белая дарога. У правы бок за агарожай з драцяной сеткі зямля стагнала грукатам новых дзіўных будынкаў і цяжкім подыхам машын.

— Мы ня туды трапілі!—прагаварыў Дзівак, спрабуючы абцасам моц дарожнай абшыўкі.—Перад Камароўкай такіх выдумак ня было...

— Што ты чаўпеш, суседзе?—пачаў гаворку Чурынец.—Ня было летась, затое сёлета ёсьць. Цяпер не па даўнейшаму: за дзень можа зьмяніцца твар зямлі. Ведаеш, як было летась у нас да колгасу: шнуры ды межы—шнуры ды межы. Шчацьнем ад быльніку было пакрыта ўсё поле. Арганізавалі колгас, прайшліся ўпоперак трактарамі ды параконнымі плугамі і не пазнаць зямлі...

Дзівак паказаў пугаўём туды, дзе на ўзгорках і нізох аселі на зямлі нябачныя раней будынкі.

— Ты ня ведаеш, што раней тут было, таму так і гаворыш. Яшчэ летась па гэтай пасецы плуга нельга было ўставіць. Такое было карчэўе! Тут сама менш дзесяць год з вагаром душыцца трэба было, каб вывярнуць вяковыя карэньні хвоек! А ня тое, што цэлы горад адбудаваць. Не! Мы ня туды трапілі! Заварачвай колы!..

Да мужчын, якія зьбіраліся садзіцца на воз, падышоў рабочы. Ён нёс у руках некалькі скруткаў дроту.

— Як нам, чалавеча, прабрацца на Камароўку?—разам спыталі Чурынец і Дзівак у рабочага.—Самі ня ведаем, як зблудзілі. Ня можа-ж быць, каб Менск за адзін год так перайначыўся. Тыя гады езьдзілі і, нічога. Бяз хітрыкаў траплялі ў горад..

Рабочы весела ўсьміхнуўся.

— Едзьце па дарозе, дык і сёлета трапіце.

— Куды?

— Куды мецілі.

— На Камароўку?

— На Камароўку.

— Во-о-о!

— А браткі-ж мае!

— От вам і „браткі“,— сур'ёзна пачаў гаворку рабочы.—Зразу відаць, якім „ударным“ парадкам вы рыхтаваліся да выстаўкі.

— Мы нешта чулі...—прагаварыў Чурынец.

— Што недзе будзе...—дадаў Дзівак.

— Мала, мала гэтага!—закрычаў рабочы.—Ня толькі трэба „нешта“ ведаць пра выстаўку, але і самім штурхаць тых, хто адстае. Вы што ў колгасе?

— У колгасе.

— Здалёк?

— З-пад Плешчаніцаў.

— Тады хадзем. Я пакажу вам з большага. А калі будзе скончана выстаўка—прыяжджайце: усё агледзіце.

Яны пайшлі ля сваіх вазоў па цьвёрдай, як жалеза, і гладкай, як шкло, абшыўцы дарогі. Увесь час—дзівіліся з таго, як зроблена.

— От, пачалі на вошта ўглядацца!—весела сьмяяўся рабочы.— Няма тут нічога дзіўнага. Ня век-жа мы будзем ламаць колы на старых каляінах. Даўно час узяцца за пабудову добрых дарог. Матэрыялу—каменю, цэглы—у нас хопіць. Тут паказана дарога з аднаго цэманту, там клінкерная (з цэглы) унь тая частка проста выбрукавана каменем. Будзе і асьфальтавая. От якія дарогі павінны быць у нас!

Пасьля, калі яны праз галоўны ўваход, абкручаны яшчэ рыштаваньнем падаліся на самую тэрыторыю Выстаўкі, Дзівак супыніўся. Кідаў погляды то ў адзін, то ў другі бок.

— Тут заблудзіцца можна ў гэтым гарадку. Невядома куды бегчы і глядаць...

— А мы пойдзем вунь да таго будынку—павільёну прамысловасьці. У гэтым вось рыштаваньні помнік Леніну.

— У павільёне прамысловасьці будзе паказана, што вырабляюць нашы фабрыкі і заводы для сельскай гаспадаркі, для патрэб будаўніцтва, для рабочых.

— А гэта якая машына?--спытаў Дзівак, разглядаючы штуковіну, падобную на вялікую сячкарню.

— Сіласарэзка. Выраблена на Гомельскім заводзе Сельмаша. Гэты завод пастаўляе такія машыны для ўсяго Савецкага Саюзу. Там пад навесам убачыце бэтона-мяшалкі, што выраблены на заводзе „Пролетары" ў Гомелі. Вунь машына для размолу вапны Менскага заводу „Комунар". Да рэволюцыі гэтыя заводы былі толькі майстэрнямі. Цяпер яны выпускаюць продукцыі на мільёны рублёў. Тысячы ўдарнікаў-рабочых выробляюць машыны для социялістычнай перабудовы вёскі. У гэтым будынку паказаны нашы дасягненьні па мэталя-прамысловасьці, горнай, швэйнай, тэкстыльнай, папяровай, махорачнай, шклянай, гарбарнай, хэмічнай, тарфяной і іншых відаў. Наша краіна з краіны выключна земляробскай ператвараецца ў краіну земляробча-індустрыяльную. Вялікія заводы-волаты адзін за адным грузна асядаюць на зямлю.

— І ўспомніць толькі, што было раней!—пачаў Чурынец.— Руіны пакінулі нам белапалякі пасьля свайго адыходу. А цяпер дзіву даешся, што сталася. Куды ні ткнешся—завод, фабрыка.

Скручваючы папяросу, рабочы дадаў:

— Лік рабочых, занятых у буйнай прамысловасьці, расьце з кожным годам. Калі, напрыклад, у 1926 г. было 27.850 чал., дык сёлета мы маем 56.348.

— А пра новых людзей-колгасьнікаў ты забыўся? Сталі новымі ня толькі палі, але і людзі.

— Будзе і пра новых людзей і пра быт. Унь той будынак спэцыяльна прыстасаваны пад экспонаты працы і быту. Усё там ёсьць: і старая вёска і новы социялістычны горад. Тут ужо зьнікаюць межы паміж „горадам" і „вёскай". Усюды будуць аднолькавыя гігіенічныя дамы, раскошныя сады, клюбы, ясьлі, школы.

Дзівак зьдзіўлена кіўнуў галавою.

— Але якія спэцыялістыя тут усё рабілі! Та-ж трэба дадумацца да такой дасканалай і прыгожай работы.

— Так. Тут папрацавалі і спэцыялістыя. Лепшыя работнікі былі заклікаsuccessive сюды. Іх веды поўнасьцю скарыстаны для таго, каб паказаць у вялікім і прыгожым падабенстве тое, што ў нас ёсьць у краіне, паказаць усе нашы магчымасьці для далейшай пераможнай хады па дарозе да социялізму...

— Як-жа будзе з дастаўкай гледачоў?—спытаў Чурынец.— Пехатою будуць ісьці з вокзалу, ці як?

— А трамвай навошта? Глядзеце унь пайшоў вагон. Да самых варот выстаўкі правялі. Тут яшчэ ёсьць сталоўка, якая будзе адпускаць 5000 абедаў штодзень. З таго боку—адкрытая сцэна, дзе будуць праводзіцца сходы, чытацца лекцыі. Далей. Вам трэба накіраваць сьпешную тэлеграму, ліст, выпісаць газэты, журналы. Калі ласка! На выстаўцы ёсьць і пошта...

Яны не змаглі агледзець усяго, што рыхтавалася для вялікага паказу, вялікай школы социялістычнага будаўніцтва. Коопэрацыя, друк, саматужная прамысловасьць, шляхі зносін, асьветныя ўстановы—усё гэта сьпешным парадкам рыхтавалася для агляду працоўнымі; у звычайным выглядзе, у дыяграмах, плякатах. Цэлыя будынкі, садоўніцтва, гародніцтва. На ўзгорку стаяў спэцыяльны завод для пераапрацоўкі садавіны.

— А тут будынак мэханізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі,—прагаварыў рабочы, калі яны падышлі да двухпавярховага будынку.—Тут паказаны машыны, што выробляюцца на беларускіх і Саюзных заводах. Паказана, як гэтыя машыны ўжываць. Трактары ўсіх відаў, жняяркі, плугі, сартыроўкі, сеялкі. Немцы прыслалі на выстаўку сартыроўку, якая прыводзіцца ў рух моторам і прапускае ў дзень да 2 тысяч пудоў зерня.

Будзе тут і першы савецкі комбайн, які паднесены ў падарунак XVI зьезду партыі. Комбайн—машына, якая адначасова жне, малоціць, арфуе і ссыпае ў мяшкі зерня.

— А гэта што за драбінкі,—спытаў Дзівак, гледзячы на нейкую павозку.

— Электрычная тачка. У сярэдзіне ёсьць электрычныя батарэі, якія прыводзяць у рух мотор. На гэтай „драбінцы" можна везьці 90 пудоў. Выраблена такая машына на савецкіх заводах.

— От, каб у наш колгас такую штуковіну!—прагаварыў Чурынец.

— Гэта дзіва, дык дзіва!

— Няма тут нічога дзіўнага. Калі пра такія машыны ў паасобнай гаспадарцы і ня сьнілася, дык колгасам усё можна зрабіць. Толькі на аснове машынізацыі, на аснове індустрыялізацыі можна перабудаваць сельскую гаспадарку на социялістычны лад.

Людзі пайшлі на поле. Жыта, авёс, лён, каноплі, гарох, пшаніца, сланечнік, кукуруза—дралі крэпкім карэньнем зямлю.



Фото СЕМЕНЯКІ.

**С.-г. выстаўка. Прожэктарная вышка.**

— Такія ўраджаі павінны быць у кожным колгасе, саўгасе, у кожнага бедняка і серадняка. Трэба толькі апрацаваць і ўгнаіць зямлю так, як раіць навука...

* * *

Вечарэла. Чырвоны круг сонца павольна асядаў на захадзе. Ад будынкаў пабеглі ледзь прыметныя цені. Горад гудзеў, грукацеў заводамі, трамваямі. Узьнімаўся ў сінюю вышыню гмахамі новых будынкаў.

Яны ехалі і ўсё агляндаліся на тое месца, дзе летась была сплеценая карэньнем пасека. Ад яе не засталося і сьледу. Адзін за адным тут усталі з зямлі дзіўныя будынкі. А далёка пад лес, на самым узгорку, вячэрняе сонца гуляла па бліскучым шкле прожэктараў, што пастаўлены на высачэзныя вежы.












Па гарадох і вёсках, па палёх і ў лясох Беларускай Савецкай Рэспублікі нябачанымі тэмпамі будуецца новае соцыялістычнае жыцьцё. Вырастаюць волаты індустрыі, магутныя электрастанцыі, колектывізаваныя сельскія гаспадаркі. Па соцыялістычнаму перакрайваецца твар беларускай зямлі пад кіраўніцтвам партыі Леніна. Няма куточку у БССР, дзе-б не будавалася новае жыцьцё, якое выкарчоўвае рэшткі нявольніцтва і цемры,—спадчыну капіталістычнага панаваньня.

Гэтае вялізарнае будаўніцтва раскінута па ўсіх кутках Беларусі. Цяжка ахапіць вокам усё зробленае, цяжка ўявіць сабе ўсю веліч тае працы, якая праароблена працоўнымі масамі за 10 год вольнага жыцьця. На руінах вырасьлі гмахі, на пажарышчах вырасьлі фабрычных гарады і колектывізаваныя вёскі.

Усё гэтае паказвае раскінутыя на 40 гэктараў тэрыторыі I Усебеларуская выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці. Выстаўка ня толькі паказвае дасягненьні, ня толькі паказвае зробленае, але і вучыць, як трэба працаваць. На выстаўцы паказаны апошнія навейшыя дасягненьні нашай тэхнікі, нашай прамысловасьці, нашай сельскай гаспадаркі. Выстаўка зьяўляецца тым вучасткам, дзе паказаны лепшыя формы палітычнай і вытворчай змычкі рабочае клясы з працоўнымі масамі сялянства

**На здымках**

1) У цэнтры: уваходная арка.
2) Зьлева: 1) надворны выг
   2) павільён транспорту.
3) Справа: 1) сілосная вежа і
   выгляд павільёну белдзя

№ 6

сучаснага праваслаўя ў СССР—намесьнік патрыаршага месцаблюсьціцеля мітрапаліт Сергі, мітрапаліты—Серафім, Аляксей, Філіп і іншыя.

А пра тое, што рабочыя і бядняцка-серадняцкія масы паступова вызваляюцца ад рэлігійнага дурману, што ўплыў рэлігіі з кожным годам у гэтых масах падае ўсё больш і больш—гэта таксама ніколі ня было сакрэтам для замежных мракабесаў, пра гэта вядома даўно ўжо ведалі ад сваіх агентаў і папа рымскі і архібіскуп кентэрбэрыйскі.

Справа тут, вядома, ня толькі ў зачыненьні цэркваў працоўнымі, ня толькі ў падзеньні рэлігійнасьці між мас савецкіх рабочых і сялян, не фантастычных „ганеньнях" духоўніцтва.

Мы пасьпяхова праводзім ліквідацыю кулацтва як клясы, мы самым рашучым чынам зьнішчаем усе рэшткі капіталізму ў нашай краіне. Мы ажыцьцяўляем наш пяцігадовы плян вялікіх работ, мы сур'ёзна будуем соцыялізм у краіне саветаў.

Вось гэтыя нашы посьпехі на фронце барацьбы з кулаччом і на фронце соцыялістычнага будаўніцтва і трывожаць буржуазію, трывожаць яе агентаў—папаў рымскіх і архібіскупаў кентэрбэрыйскіх.

Ліквідацыя кулацтва як клясы, гэта ня толькі рашучы ўдар па рэштках капіталізму ў Савецкім Саюзе, гэта ня толькі рашучы ўдар па нашых унутраных ворагах—па кулаччу, па царкоўніках, па нэпманах. Гэта рашучы ўдар і па нашых ворагах на той бок барыкад, гэта разбурэньне ўсіх іхных надзей на рэстаўрацыю капіталізму ў Савецкім Саюзе.

Вось чаму цяпер паднялі такі зьвярыны вой мракабесы Захаду, вось чаму яны так моцна крычаць цяпер усюды пра „ганеньні" на рэлігію ў Савецкім Саюзе, вось чаму яны так ліхаманкава рыхтуюцца да „крыжовага паходу" на СССР.

* * *

А ў працоўных масах Савецкага Саюзу сапраўды робіцца вялізны культурны зрух у бок вызваленьня рабочых і сялян з-пад улады рэлігійнага дурману. Дзесяткамі, сотнямі—паводле пастаноў агульных сходах рабочых і сялян—назаўсёды зачыняюцца цэрквы, касьцёлы, сынагогі, робяцца дамы культуры, клюбы, бібліотэкі, хаты-чытальні. Замест шахрайскіх казаньняў царкоўнікаў пра „ўваскрошаньне з мёртвых" Ісуса хрыста, што ніколі не існаваў, у гэтых бывалешніх цэрквах, сынагогах, касьцёлах чытаюцца працоўным навуковыя лекцыі, навучаюць грамаце няпісьменных, знаёмяць з пролетарскаю культураю адсталых і цёмных.

А з царкоўных званіц, зноў-жа паводле пастаноў рабочых сходаў, здымаюцца званы і мэталь адсылаецца на заводы, каб будаваць трактары, сельска-гаспадарчыя машыны.

Прыціхае паступова на прасторы ўсяго Савецкага Саюзу гуд званоў—сымбаль рабства, цемры, някультур'я. Замест яго—замест гэтага папоўскага гуду званоў—усё мацней і мацней чуцён гуд машын, гуд трактароў, гуд новага радаснага соцыялістычнага побыту.

* * *

Вялікдзень, як і ўсе царкоўныя сьвяты служаць для царкоўнікаў вельмі добрым спосабам рэлігійнае агітацыі. Яно скарыстоўваецца імі для пропаганды сваіх контр-рэволюцыйных ідэй, для расьсеву сярод працоўных нацыянальнае няроўнасьці, шовінізму усіх колераў і адценьняў, антысэмітызму.

Вызваленым ад рэлігійных ланцугоў працоўным, гэтае папоўскае сьвята не патрэбна. Тым больш, непатрэбна, што і самога „героя" гэтага папоўскага сьвята—хрыста, як вядомае гістарычнае асобы ніколі ня было.

А раз ня было хрыста — значыць ня было ні яго „нараджэньня", ні яго „страсьцей", ні яго сьмерці на крыжы, ні яго „ўваскрошаньня з мёртвых".

Не патрэбна нам гэта сьвята—сымболь цемры, рабства, някультурнасьці.

Мы заняты іншаю, бясконца больш важнаю і тэрміноваю справаю—будаўніцтвам соцыялізму ў рэспубліцы працы.



**У вёсцы Саламарэчча, Заслаўскага раёну (Меншчына) сяляне перарабілі царкву у клюб. На нашым здымку адзін з момантаў перабудовы царквы.**

# У ПАХОД СУ[ПРОЦ...]



ЦАРКВА была, ёсьць і будзе ворагам усяго жывога. За ўвесь час свае гісторыі, царква заўсёды ішла ўперадзе мерцьвякоў. Зусім натуральна, што і зараз царква бярэ пад сваю абарону нэпмана, кулака, бандыта,— усякага, хто выступае супроць дзяржавы рабочых і працоўных сялян.

Ваяўнічая царква, верная сваім гістарычным рэакцыйным традыцыям, імкнецца і зараз заняць першае месца ў той контррэвалюцыйнай вайне, якую супроць нас рыхтуе сусьветны капітал. Папа рымскі зусім адкрыта заклікае да крыжовага паходу на СССР.



Чаму?

Пасьпяховы рост социялістычнага будаўніцтва няўхільна выклікае рост бязбожніцтва. Ня толькі рабочыя, але і цэлыя вёскі адмаўляюцца ад рэлігійных звычаяў і забабонаў, патрабуюць зачыненьня цэркваў, касьцёлаў, сынагог і перадачы іх пад клюбы, школы, бібліотэкі. Пра рост бязбожжа лепш за ўсё гаворыць замена самымі працоўнымі царкоўных сьвятаў днямі „індустрыялізацыі“ у горадзе і „колектывізацыі“ на вёсцы. Паўсюды ствараюцца ячэйкі бязбожнікаў, расьце попыт на антырэлігійную літаратуру. І чым хутчэй наша краіна будзе пасоўвацца па шляху да социялізму, тым больш будзе расьці бязбожніцтва.



Працоўныя масы Савецкага Саюзу, засучыўшы рукавы, з вялікім энтузіязмам і ўпартасьцю будуюць новую социялістычную грамаду. Для гэтага патрэбна дапамога навукі і тэхнікі і ніякія молебны тут, бязумоўна, не дапамогуць. Працоўныя масы добра зразумелі, што іх клясавыя ворагі іменна таму абралі рэлігію сваёй зброяй, бо царква дапамагае ім трымаць рабочых і сялян у пакорлівасьці. Гэта было ў часе грамадзянскай вайны, калі духавенства служыла на карысьць контррэволюцыі.

Духавенства організоўвала свае „палкі Ісуса“, прымала ўдзел у карных экспэдыцыях, агітавала салдат белага войску, што, забіваючы комуністых і выступаючы супроць рэволюцыі, яны змагаюцца за хрыста.







**Малюнкі зьлева: 1) Прыстасавалася зараз сялянамі пад клюб Саламарэчынская царква, якая, відаць, раней была касьцёлам, бо ў разабраным барахле знойдзены і „багі“, якім некалі кланяліся і прасілі адпушчэньня грахоў католікі. 2) Па ўсёй БССР хваляй пранесьліся пастановы рабочых і сялянскіх сходаў, каб званы пераліць на трактары. На фото: зьнімаюць званы.**

**Малюнкі ў сярэдзіне: 1) Пераабсталёўваючы Саламарэчынскую царкву, фізкультурнікі знайшлі вялікую колькасьць царскіх папяровых грошай. На фото: зьнятыя з царквы званы і грошы. 2) Адзін з старых сялян Гатовінскага сельсавету, прысутнічаўшы пры зьняцьці званоў.**

# …Д СУПРОЦЬ БАГОЎ!

Працоўныя масы ўбачылі, што царква і духавенства на баку іх адвечных ворагаў—фабрыкантаў, абшарнікаў і кулакоў. Усё гэта лепш за ўсё выкрыла клясавы твар царквы і канчаткова падарвала веру ў бога.

Контррэволюцыйная роля духавенства асабліва яскрава выявілася зараз, калі рабочыя і сяляне магутным колектывам узяліся за перабудову краіны на новы соцыялістычны лад. Стагодзьдзямі вучыла царква пакорліва пераносіць зьдзек і эксплёатацыю. Заўсёды, калі працоўныя масы ўзьнімаліся на змаганьне з эксплёататарамі і дармаедамі, поп з крыжам выступаў на баку прыгнятальнікаў. Зараз, калі працоўныя масы зьнішчаюць кулака як клясу і выціскаюць нэпмана з яго экономічных позыцый,—ён таксама выкідае на сьметнік гісторыі і царкву.



Усякае сьмяцьцё, пустазельле, шкоднікі і дармаеды, усё што шкодзіць будаваць новае, будзе адкінута і зьнішчана. Ленін гаварыў—„сіла прывычкі мільёнаў—страшэнная сіла“. Будаваць соцыялізм ужо ўвайшло ў прывычку мільёнаў і дзесяткаў мільёнаў рабочых і сялян. Гэтая сіла надзвычайна страшная, моцная. Гэта сіла ламае, крышыць на сваім шляху ўсё, што шкодзіць.




Царква—шкодзіць. Царква, касьцёл, сынагога робяцца клюбам кулакоў, нэпмэнаў, былых афіцэраў, усіх нездаволеных дыктатурай пролетарыяту. Абяззбройваючы сваіх клясавых ворагаў, працоўныя забіраюць у іх царкву—іх клюбы, прыстасоўваючы гэтыя памяшканьні пад культурныя ўстановы, для змаганьня з цемрай і забабонамі.

Мы цяпер зьяўляемся сьведкамі факту сусьветна-гістарычнага значэньня — працоўныя масы сотнямі зачыняюць цэрквы, адракаюцца ад рэлігіі. Ухваляючы пастанову аб організацыі колгасу, сяляне ўхваляюць таксама аб зачыненьні царквы. Вера ў сілу колектыву несумяшчальна з верай у бога. На запытаньне: „Якая твая вера“—Аўгуст Бэбэль адказаў: „Хрысьціянства і соцыялізм супярэчаць адзін аднаму, як вада і агонь“.










…заявіў: „Адслужылі вы (званы) службу папам. Цяпер ідзеце на індустрыялізацыю. 3) Удзельнікі сходу, якія прывезьлі на завод „Комунар“ (Менск) металічныя рэлігійныя прылады, каб ператапіць на патрэбы індустрыялізацыі. 4) Абоз з рэлігійнымі прыладамі ўяжджае на панадворак зав. „Комунар“ (Менск). 5) Старшыня Гатовінскага с/с, т. Андрэй Бурэка, які організаваў перадачу царквы пад клюб. 6) Здымаюць крыжы з царквы і замяняюць іх чырвоным сьцягам.

**Малюнкі справа:** 1) Зьнятыя званы. 2) Менскія комсамольцы-фізкультурнікі дапамагаюць рабіць насьценгазэту для саўгасу ў Гатовінскім с/с.




Апавяд. Кальтофэн
Мал. Г. Кінніса

ГЭТА адбылося ў 1927 годзе, у Італіі, яшчэ да таго, пакуль фашызм і царква не стварылі свайго братэрскага саюзу, найчарнейшага з усіх конкордатаў сусьвету.

У адну лютаўскую раніцу, калі неба сінела над горамі блакітным шоўкам і калі Міжземнае мора блішчэла, нібы залацістае люстэрка ў праменьнях веснавога сонца, „Італія“, гатовая да ад'езду, калыхалася ля выгружальнага мосьціка. На задняй палубе, дзе звычайна знаходзіліся пасажыры першай клясы, сядзелі два пролетары: машыністы і першы матрос. „І я табе кажу, што мы атрымаем конкордат!“

„Не, мы не атрымаем! Мы маем-жа Мусоліні!..“

Машыністы засьмяяўся. „Якраз таму, што мы яго маем, мы атрымаем конкордат!“ Матрос пачырванеў ад злосьці: „Ты бэльшавік, і калі-б ты ня быў маім лепшым сябрам, я-б даказаў на цябе...“ Машыністы зрабіўся сур'ёзным: „І чым ты быў, калі мы займалі вэрф? І ці ня ўсе мы штурмавалі фабрыкі і кідалі прадпрыемцаў у вастрогі? Ці ня быў ты разам у першых шэрагах?“ — „Гэта было тады! Сёньня ведаю я, што мы тады памыляліся!“ — „Наколькі?“ — „Бальшавізм не падыходзіць да Італіі!“ — „І фашызм падыходзіць найбольш, думаеш ты?“. Матрос кіўнуў: „Ён ёсьць паралельлю бальшавізму, таксама ён змагаецца супроць адурачаньня народу царквой!“ — „Чаму-ж тады наша высокапахвальная законная ўлада, ня гледзячы на паказную варожасьць да царквы, прыхільнічае сёньня гэтай дурной працэсіі і нават будзе прымаць у ёй удзел?“ — „Яны ня будуць браць удзелу!“ — настойваў матрос на сваім. Машыністы пажаў плячыма. „Ратуша аздоблена як і прыватныя дамы. Мясцовая газэта патраціла цэлую старонку на тое, каб паведаміць пра наведваньне старога мёртвага чэрапа. Наша суровая цэнзура не перашкаджае, калі прэса старонкамі паведамляе пра бяссэнсную балбатню, якую даў нейкі дурны за некалькі стагодзьдзяў да нас. Калі-б ён жыў сёньня, ніводнага разу ня здолелі-б яго прыяцелі захаваць яго ад вар'яцкага дому...“ — „Толькі час давядзе, ці меў ты рацыю!“ — перабіў яго матрос.

Хлапец у зашмальцованым алеем кіцелі зьявіўся на сходах: „Аллё! Яны ідуць!“ Абодва ўскочылі і машыністы патрос руку прыяцеля: „Сапраўды, колега, час гэта давядзе, яны патрэбны адзін аднаму“.

Яны пайшлі. Наперадзе хор. Пазадзі эпіскоп, пад блакітным, багатым на золата, балдахінам, у чырвонакардзінальскім адзеньні. Потым папы, у пярэстых рызах, езуіты пад вялікімі шляпамі, кляшторнікі ў цёмным манашаскім адзеньні, шляхетныя цывільныя, багатыя жанчыны і дзеці; залатая адзнака фашызму на грудзёх: прадстаўнікі фашыцкага гарадзкога брацтва. Паліцыя — дзяржаўная паліцыя! — стаіць шпалерамі, паміж якіх рухаецца працэсія. Гуляшчыя разявы таўпяцца вакол: адны з тупаверуючым зьдзіўленьнем, другія з таемным ківаньнем галавой, трэція з адкрытай ненавісьцю: „Ці будзе калі канец гэтаму палку папоў?“ Сірэна загула, карабель адплыў, каб адправіцца за адным мёртвым чэрапам, які рабіў па краіне падарожжа ў мэтах прапагандаваньня царквы. Шлях туды адбыўся гладка. Пунктуальна яны прыбылі ў Лекко, а некалькімі гадзінамі пазьней на борт прыбыла ўрачыстая працэсія чэрапоў. Карабель адплыў.

Як надзвычайна калыхала на зваротным шляху. Машыністы павінен быў трымацца за падважнік, каб не паваліцца. Малады качагар спатыкнуўся і засьмяяўся: „Эгэ, сьвяты чэрап зацяжкі!“ Калі яны міналі закругленьне, цяжкая скрыня нахінулася на бок і доўгі час не хацела паднімацца. „Там нешта не ў парадку!“ — прабурчэў машыністы. Ён пабег назад і адкрыў люк у ніжняй частцы, дзе была сьветлая рыса, мяжа найглыбейшага апусканьня ў ваду? Колькі ён ня шукаў, ён яе не знайшоў. Яго спрактыкаванае вуха пачула ўнізе падазронае булькатаньне: Ён на мігі падазваў маладога качагара. Абодва прыкленчылі перад люкам, кішэнёвы ліхтарнік кінуў свой сноп сьвятла ўніз. Белыя пузырыкі ўзьнімаліся, круцячыся з глыбіні; белай рысы ані сьледу. Мабыць вада даўно пакрыла яе. Карабель быў з дзіркай. „Мы павінны зьвярнуцца“ — сказаў машыністы. Ён ужо быў ля гаварыльнай трубы. Гэта было віной капітана, што яны не павярнуліся. Машыністы лепш ведаў пра небясьпеку.

Ледзь праз гадзіну пазьней струменіла вада праз падлогу машыннага аддзяленьня. Струменьні булькаючы крынічылі са ўсіх дзір. Стомлена працавала машына; пужліва прыслухоўвалася каманда да яе стомленага пульсуючага біцьця. Як толькі плыў карабель...

Эпіскоп падняўся на капітанскі мосьцік: „Мы маем моцнае спазьненьне, капітан! Што здарылася?“ Капітан быў блядым і нэрвовым: „Нічога, нічога“. Унізе, у машынным аддзяленьні, стаялі два пролетары ў вадзе да кален. „Гэта паднімаецца і паднімаецца; калі яна дасягне агню, тады ўсё скончана!“ Адзін за адным, матросы і капітан, спускаліся па простаспадзай лесьвіцы ўніз. „Як справы?“ — „Што мы робім?“ пытаўся капітан.


... езуіты пад вялікімі шляпамі, кляшторнікі ў цёмным адзеньні, шляхетныя цывільныя.









яд павільёну мэханізацыі і электрыфікацыі

іавільён буйнай рагатай жывёлы; 2) знадворны
ожвыдавецтва.

Лепшымі ўзорамі, лепшымі фабрыкамі і заводамі, лепшымі колгасамі і саўгасамі выстаўка ня толькі агітуе, але і пераконвае аб пераважнасьці социялістычных мэтодаў гаспадараньня, аб пераважнасьці колектывізацыі і новага быту ў сельскай гаспадарцы.

Выстаўка мае 36 павільёнаў, апрача рознага роду павецяў. Працуе спэцыяльная паходная друкарня, якая выпушчае газэту Выстаўкому „Социялістычная рэконструкцыя". Багата запісаў аб сваіх уражаньнях аб выстаўцы, якія пакідаюцца экскурсантамі, сьведчыць, што ў БССР даўно насьпела патрэба ў організацыі падобнай выстаўкі, якая-б відавочна вучыла заўтрашняга калгасьніка як лепш будаваць новае жыцьцё, як хутчэйшымі тэмпамі дамагчыся лепшых вынікаў. І-я Усебеларуская выстаўка гэтаму вучыць.

Павільён мэханізацыі сельскай гаспадаркі, трактары і комбайн, макет Асінстану і павільёны прамысловасьці яшчэ раз падкрэсьліваюць вядучую ролю социялістычнай прамысловасьці і рабочае клясы ў социялістычнай перабудове вёскі і ўсяе народнае гаспадаркі.

Уся выстаўка з яе экспонатамі лепш да ўсё паказвае чаго дасягнулі рабочыя і сяляне да 10 год вольнага жыцьця, і як шанаваць і абараняць трэба тое, што мы адваявалі ў змаганьні са сваімі і сусьветнымі капіталістымі.

# ТРЫВОГА

Нарыс БЯЛІНЫ-ПАДГАЕЦКАГА

*(Малюнкі з мінулага).*




„Галярэя боек“ у Вэрсальскім палацы, дзе быў падпісаны мір, які паклаў канец імпэрыялістычнай вайне 1914—1918 году.

ПАРЫЖ спаў. Ціха плыў месячык сярод хмар, заліваючы вялікі горад — сталіцу францускай рэспублікі—сваім халодным бязжыцьцёвым сьвятлом. Пад яго дзіўнымі праменьнямі і шырокія авэню, і шматпавярховыя часам дзівоснай архітэктуры дамы і велічныя помнікі—усё прыймала якісьці нерэальны, фантастычны адбітак, усё здавалася, як-бы жыло сваім асаблівым „начным“ жыцьцём. Здавалася, як-бы блукаеш ты ў зачараваным фэямі горадзе, здавалася, як быццам жывеш ты ў якімсьці несапраўдным казачным сьвеце.

Задумліва коціць свае ціхія воды Сена, а асьветленыя месячыкам гіганты-масты, якія злучаюць абодвы яе берагі, надаюць нейк е асаблівае ачараваньне начному ляндшафту.

Спаў Парыж пасьля працоўнага, поўнага ўсялякіх хваляваньняў дня, ня гледзячы на адносную блізкасьць фронту, а часам бурліва праведзены ў кавярнях і барах вечар. Было ціха. Так ціха, што крокі рэдкага ў гэты час падарожнага-гулякі, які спазьніўся, або прастытуткі, якая вярталася дамоў з сваім сумным заробкам—гулка гудзелі ў начным паветры, парушаючы сваім назольным шумам цішыню цёплай восеньскай ночы.

Ітак, горад спаў. Толькі месячык з сваёй бледнай хворай усьмешкай, то хаваючыся, то зноў выглядаючы з-за хмар, ціха плыў над імі.

* * *

У вялікім і хмурым, казарменнага выгляду доме ў клігнанкурскіх варот [1]) таксама ў гэты час усе спалі. Цяжкі адзінаццацігадзінны працоўны дзень на заводах і фабрыках прымушае моцна адчуваць яго. Дзе тут думаць аб пацехах і скоках. Як-бы хутчэй дабрацца да ложка, з галавой закапацца ў коўдру і спаць да раніцы цяжкім сном, які не дае сапраўднага пакою і сапраўднага адпачынку.

— А Жульеты ўсё няма і няма,—непакоячыся гаварыла свайму мужыку Леа, ужо некалькі разоў падыходзячы да дзьвярэй і пазіраючы на сходы.—Колькі разоў гаварыла я ёй вяртацца дамоў пры сьвятле. У горадзе ўначы так рызыкоўна...

— Можа быць заначавала яна ў мадам Жаро,—пазяхаючы адказаў сваёй жонцы муляр Густаў.—Ну, кладзіся, Леа... Заўтра, сама ведаеш, рана ўставаць патрэбна.

Пагасла электрычнасьць, змоўклі размовы... І толькі мернае храпеньне заснуўшага будаўніка парушала ночную цішыню маленькай кватэры муляра Густава.

Але што гэта? Што гэта за жудасны жалобны гук нечакана ўварваўся ў пануючую цішыню ночы? Вось ён шырыцца, расьце, напаўняючы непакоем і сумам усхваляванае чалавечае сэрца. Гэта „Gotha“ [2]), гэта немцы, гэта „allerte“, гэта непакой.

Момант!—пагасла электрычнае сьвятло, выключанае на галоўнай электростанцыі гораду. І Парыж ціхі, непакойлівы апусьціўся ў поўную самаўладную цемень.

У дамох, у пансіёнах—усюды, дзе толькі жывуць у Парыжы людзі—падымаецца гармідар. Мітусяцца запаленыя дрыжачай ат хваляваньня рукой сьвечкі, мужчыны і жанчыны, старыя і маладыя, амаль голыя, з крэсламі і лаўкамі ў руках, кідаюцца ўніз па сходах, сьпяшаюцца яшчэ да пачатку бомбардаваньня гораду пасьпець у выратавальныя склепы ад разрыўных знарадаў.

— Хутчэй, хутчэй уніз!—крычаць адны, асабліва нэрвовыя.

— Не, немцы яшчэ толькі пераляцелі мяжу,—супакойваючы, гавораць другія. У нас яшчэ да пачатку бомбардыроўкі цэлых дваццаць хвілін у распараджэньні!

А сырэны ўсё гудуць і гудуць, прымушаючы мацней біцца сэрца, кідаючы ў душу якійсьці незразумелы непакой.

Але ўвогуле прызвычаеныя да такіх начных нападаў, якія адбываліся амаль штодзенна, парыжане ня вельмі хваляваліся і адчувалі сябе ў ратавальных склепах зусім як дома. Вялікія першаклясныя готэлі арганізавалі ў сваіх падзямельлях амаль што будуары і гасьцінныя, накрылі цэмэнтаваныя падлогі дыванамі, расставілі там у маляўнічым беспарадку зручныя крэслы. Чарговыя лёкаі падавалі ўніз лікёры і віно, разносілі на важкіх срэбных падносах цыгаркі, садавіну і закускі... Багатыя жыхары готэля кварталаў Сэнт-Онорэ і Сэнт-Жэрмэн з максымумам зручнасьці каратаалі пад гукі моцнае артылерыйскае страляніны час нападу ў сваіх зручных і глыбокіх падзямельлях.

* * *

У склепе дому, дзе жыла сям'я муляра Густава, вядома ніякіх крэслаў і дываноў ня было. Ня было там і лёкаяў, якія на важкіх падносах разносілі ўсім жадаючым цыгаркі, закускі, лікёры. Рабочыя з жонкамі і дзецьмі, дробныя служачыя—кожны прынёс з сабой у склеп крэсла або лаўку, прымайстраваўся сяк-так у сырым няпрыветлівым, асьветленым толькі мільгаючым сьвятлом сьвечкі склепе.

Між тым апошні гудок сырэны заціх у ціхім начным паветры. І вось глуха і роўнамерна, але паступова ўсё павялічваючы і павялічваючы моц свайго агню, запрацавалі батарэі, пасылаючы ў начную цемень насустрач адважным сьмельчакам сьмерць і разбурэньне.

— Бух, бух!—грукаюць гарматы, здрыгаючыся пасьля кожнага стрэлу ўсім сваім стальным целам.

— Та-та-та!—працуе кулямёт.

— Бух, бух... бух!—рвуцца бомбы і гранаты, якія кідаюцца нямецкімі лётнікамі на безабаронны горад. У склепе ўсё заціхла. Змоўклі размовы, перарваныя на паўслове,—змоўк зараз такі няпрыстойны сьмех... Як-бы прыціснутыя страшэннай страляніной, людзі прытаіліся ў кутках склепу, з жахам чакалі канца нападу.

— Звалілася на бульвары Сэнт-Жэрмэн каля вайсковага міністэрства...—часам былі чутны адрывістыя сказы—не, гэта на другім беразе Сены... мой бог, калі-ж гэта ўсё спыніцца!..

А напад працягваецца, сеючы сьмерць і разбурэньне. Усё працягваюць грукаць гарматы, усё працягваюць з трэскам і шумам рвацца гранаты і бомбы, усё працягвае свой манатонны сьпеў кулямёт.

— Ці-ж гэта бомбардыроўка?—пачынаў кожную ноч сваё апавяданьне стары ўцякач Піка з паўночных раёнаў Францыі.— Вось Ліль і Рэймс немцы абстрэльвалі—гэта я разумею... Там і склеп не бараніў...

Але ніхто ня слухаў старога. Не да таго зусім было.

Але вось мала-па-малу пачала змаўкаць страляніна. Усё радзей і радзей грукалі гарматы, усё далей і далей чуваць было разрываньне бомб і гранат. Паляцелі немцы зрабіўшы сваю злую справу,—разбурыўшы некалькі дамоў і будоўляў, забіўшы і скалечыўшы некалькі дзесяткаў, а іншы раз і сотняў ні ў чым непавінных чалавечых жыцьцяў.

Але і Парыж на гэты раз не застаўся ў даўгу. Адзін з адважных самалётаў завіс на дрэвах сталічнага прадмесьця, зьбіты стрэлам францускіх кулямётаў.

---

[1]) Клігнанкурскія вароты—прадмесьце Парыжу.

[2]) Gotha—нямецкі самалёт.

Усе радзей і радзей грукаюць гарматы. Вось яшчэ адна нё-пакойлівая час-ад-часу пасылае свае сьмяротныя знарады ў начную цемень асеньняй ночы, але і яна хутка змаўкае. Настуціла поўная і бязумоўная цішыня—цішыня пасьля буры.

... Сярод забітых у гэтую ноч гранатамі нямецкіх лётнікаў была і маладая Жульета—дачка муляра Густава. Раніцою яе прынесьлі дахаты клігнанкурскага прадмесьця акрываўленую, з адарванай правай рукой, ужо захаладзелую. На яе напала нечаканая і недарэчная сьмерць тады, калі яна, засядзеўшыся ў гасьцёх, вярталася дамоў ужо па пустых вуліцах французскай сталіцы.

— Няжыва, яна няжыва!—плакала над целам свае каханае дачкі маці, якая пастарэла за некалькі гадзін.

— Забойцы!.. праклятыя забойцы! Што зрабіла вам мая Жульета?

Каго кляла Леа—жонка муляра Густава. Немцаў, якія ў цёмную ноч напалі на безабаронны Парыж. ці тых хто вымудраваў гэту страшэнную імпэрыялістычную бойку? Яшчэ ў пачатку тысяча дзевяцьсот восемнаццатага году гэтае зараз зразумелае для пролетарыяў пытаньне, было незразумелым шмат каму.



Гасьціньніца „Валеж“ у Вэрсалі, дзе зьмяшчалася ў часе мірных перагавораў нямецкая дэлегацыя.

... І зноў ціхая асеньняя ноч была разарвана на гэты раз радасным і нястройным гукам труб, частым звонам бубнаў, рэзкім, заглушаючым звонам літаўроў. Гэта быў „бярлок“, гэта быў адбой, гэта быў канец нападу і непакою.

Немцы былі далёка. Парыжане мелі магчымасьць зараз пакінуць свае склепы, мелі магчымасьць зноў вярнуцца ў свае пакоі, зноў заснуць сном, які быў перарваны.

А ці надоўга? Гэта было ўжо другое пытаньне, таму, што напады нямецкіх эскадрыльляў адбываліся іншы раз па два і тры разы ў ноч.

* * *

Дзевятая гадзіна раніцы. Там, дзесьці далёка, за вельмі многа вёрст ад Парыжу на ўзьлеску капошуцца людзі. Яны вымерваюць пры дапамозе асаблівых прылад адлегласьць, накіроўваюць доўгія і важкія рулі высока ў неба...

— Агонь,—камандуе па-нямецку з іголкі апрануты артылерыйскі афіцэр з моноклем на левым воку.

Хістаецца стальное страшыдла. З рэзкім посьвістам прарэзваючы паветра, вырываецца з нагрэтае да чырвані зяпы „важкай Бэрты“ чарговы сьмяротны знарад, узьлятае высока—да неба і імчыцца ў паветры праз дваццаць вёрст, да мэты—Парыжу.

Такім чынам, праз кожныя дваццаць хвілін з мэтодычнай і чыста нямецкай акуратнасьцю знарады „важкай Бэрты“ з глухім і монотонным гулам ляталі над Парыжам, рваліся ў вадным з яго кварталаў, нясучы за сабой лішнія і непатрэбныя чалавечыя ахвяры і разбурэньне.

А разбурэньні і чалавечыя ахвяры былі далёка не маленькія. Прыкладам, у пятніцу перад каталіцкім сьвятам—вялікаднём адзін такі далёкастрэльны знарад „важкай Бэрты“ зваліўся і разарваўся над каталіцкай царквой у квартале Сэнт-Сюнліс, калі гэтая царква была напоўнена парыжанамі, якія маліліся богу.

Моцай выбуху была зусім разбурана гэтая царква, якая пахавала пад сваім разваліна мі каля двух сотняў парыжан—у сваёй большасьці жанчын, старыкоў і дзяцей.

. . . . . . . . . . . . . . .

Пры такіх абставінах жыло парыскае насельніцтва ў гэтыя страшэнныя месяцы 1918 году перад канцом усясьветнай імпэрыялістычнай бойкі ў той час, калі ў Вэнсэнскім лесе пад Парыжам расстрэльвалі злоўленых шпіёнаў, а там, на фронце, чынна рыхтаваліся да апошняга рашучага наступу.

# УЗЬНІМАЮЦЦА РЫШТАВАНЬНІ

## З. АСТАПЕНКА

Узьнімаліся рыштаваньні
Цытадэльлю ад буйных бур...
Хто міне, а хто раптам стане
І глядзіць на высокі мур.

Мур высокі і весела цэгла
Ў муляровых руках зьвініць..
Хутка будуць тут сьцены цэхаў
І заводзкіх вакон агні.

Кельня ляскае бранзалеткай
І на цэгле раджае звон...
Ваганэтка за ваганэткай...
І на сонцы сохне бэтон.

А ўгары,
        дзе пяюць антэны,
Дзесь высока, там—угары
Засьпявалі на ўзвышшы сьценаў
Вясёлыя муляры—

Ну і цэгла—
Лёгкі звон—
Урастае
У бэтон...

Сёньня далей
Узрасьце
Вышыня
Каменных сьцен.

Дым заўецца
У простор.
Загудзе
Паймчыць мотор.

Нашу цэглу,
Нашу сінь
Скалатне
Разгон машын.

Вокліч звонка
Ударыць шыры—
Пяцігодка
За чатыры.

Пяцігодка—
Рух гадоў...
Наша цэгла—
Наша кроў.

Ну-ж вы, хлопцы,
Болей цэглы!
Трэба хутка
Скончыць цэх нам!..

Мур высокі і весела цэгла
Ў муляровых руках зьвініць...
Хутка будзе тут гоман цэхаў
І заводзкіх вакон агні.

Я спыняюся ў захапленьні,
Песьні слухаю муляроў...
Мур кідае даўгія цені
І вясёла пульсуе кроў.

Знаю, край мой ідзе хадою
Будаваньня і творчых бур...
Вышай,
Ўзьнесены над зямлёю,
Нашых цэхаў каменны мур...

Калі-ж прыдуць,
        калі-ж толькі прыдуць
З-за мяжы на сьмяротны бой—
Я з вясновую песьняю выйду,
Як са сьцягам над галавой.

Знаю—
        край мой ідзе ў змаганьні
За машыны,
        за кожны мур.
Узьнімаюцца рыштаваньні
Цытадэльлю вялікіх бур.

# ЦАРКВА НА СЛУЖБЕ МОНАРХІІ

НАРЫС АН. БУРДЗЕЙКІ

ЦАРКВА і монархізм цесна злучаны паміж сабою. Адзін другому дапамагаў, адзін другога падтрымліваў. Гэта зьявішча добра вядома, гэта зьявішча добра выявілася ў час Кастрычнікавай рэволюцыі і многа прыкладаў гэтага сустракаем мы і цяпер.

Хаўрус царквы і монархіі супроць працоўных быў уласьціў усёй былой Расійскай Імпэрыі. Ва ўмовах Беларусі, як акраіны, як старонкі з пярэстым нацыянальным складам, якая пазьней за другія папала пад пяту былога расійскага трону, гэты хаўрус меў сваё асаблівае значэньне.

На падтрыманьне рэлігіі, і асабліва пануючай, т. з. праваслаўнай, урад зварочваў тут асаблівую ўвагу. Гэта выявілася ў першую чаргу ў пабудове цэркваў за дзяржаўны кошт (г. з. за кошт тых грошай, якія выкалачваліся з працоўных у выглядзе розных падаткаў).

Так, згодна лісту протаіерэя Радзевіча, які быў прадстаўніком менскага архірэя ў асобым камітэце ў Пецярбургу, у 1860 г. на пабудову цэркваў толькі ў Менскай губэрні было асыгнована 600 тысяч рублёў. Сума для таго часу значная [1]).

Але справа не абмяжоўвалася толькі выдачай грошай, патрэбна была яшчэ і адміністрацыйная дапамога. Тут таксама характэрна, што гэтая дапамога ўскладзена ўрадам на тое міністэрства, якое ведала і паліцыяй, г. з. на міністэрства ўнутраных спраў. З гэтай мэтай у дапамогу архірэю для „устройства церквей" быў прыкамандыраваны спэцыяльны чыноўнік міністэрства ўнутраных спраў. У 60-х гадох мінулага стагодзьдзя гэтыя абавязкі выконваў генэрал-майор Петр Мэер. Яны дзейнічалі з архірэем надзвычайна дружна і былі добрымі прыяцелямі, што выяўляецца з прыватнай перапіскі паміж імі, якая цягнулася доўга і пасьля таго, як Мэер быў заменен другой асобай. Такім чынам сувязь і сумленнае дзейнічаньне царквы і паліцыі было замацавана і організацыйна. Але і гэтага яшчэ было мала. Адным з галоўных абавязкаў мясцовага кіраўніка сьвецкай улады—губэрнатара таксама зьяўлялася — „устройство православных церквей". Абавязак гэты быў не маленькі, ён многа клопату даваў губэрнатарам. Не здарма адзін з іх, Сямёнаў, пасьля таго, як яго перавялі ў Вятку ў сваім лісьце да менскага архірэя піша: „В Вятке мне гораздо менее хлопот, чем в Минске, здесь управление проще и единообразнее, нет части политической... нет, наконец, устройства православных церквей і домов для причтов" [2]).



Ікона „Благавешчаньне" работа мастака Баравікоўскага ў Магілеўскім саборы. У „анёле" лёгка пазнаць... царыцу Кацярыну II.

Такія заботы не прападалі дарма. Царква старалася адплаціць за іх. Спосабаў, якімі яна дапамагала царскаму ўраду душыць працоўных, было вельмі шмат. Гаварыць аб усіх іх тут ня хопіць месца. Для гэтага трэба было-б напісаць не адну кнігу. Тут мы застановімся толькі на двух прыкладах, зьвязаных з пабудовай цэркваў і іх упрыгожваньнем. Дапамога монархіі ў першую чаргу адбывалася шляхам праштурхваньня ў голавы працоўных думкі, што ўлада монархічная—ёсьць улада божаская. Аб гэтым гаварылася на кожнай царкоўнай службе, аб гэтым гаварылася ў казаньнях, малітвах, царкоўных песьнях. Апрача гэтага аб гэтым павінны былі гаварыць і самі цэрквы. Кожны больш-менш падыходзячы выпадак зараз-жа скарыстоўваўся ў патрэбных мэтах. Так у 1867 г. рабіўся замах на Аляксандра II, але замах быў няўдалы. Зараз-жа царква пастаралася выкарыстаць гэта, пачала праводзіць думку, што выратаваньне Аляксандра II гэта ёсьць цуд божы і ў памяць гэтага цуду будуюцца цэркві. У Менску ў памяць гэтага здарэньня была пабудавана ў 1870 г. часоўня на т. з. Аляксандраўскім сквэры [3]). Таксама цудам аб'яўляе царква збаўленьне ад крушэньня царскага цягніка каля ст. Боркі 17 кастрычніка 1888 г. У памяць гэтага ў гэты дзень кожны год спраўляюцца царкоўныя службы і перад вайной гэтаму „цуду" прысьвечваецца нова-пабудаваная каменная царква т. з. чыгуначнікаў, якая зараз па патрабаваньню працоўных передзелана пад клюб чыгуначнікаў. Гэтыя каменныя помнікі—цэрквы павінны былі адхіліць працоўных ад барацьбы з монархіяй, бо за яе быццам стаіць сам бог з сваёй нябеснай сілай. Але ня толькі такім здарэньням прысьвечвалі пабудову цэркваў. Для гэтага выкарыстоўвалі і больш дробныя здарэньні. Так у 1888 г. Менск наведаў вялікі князь Уладзімер Аляксандравіч з жонкаю і гэтаму здарэньню прысьвечваецца царква, пабудаваная пры дабрачынным т-ве ў 1889 г. [4])

Але ня толькі самыя цэрквы сваім надворным выглядам павінны былі гаварыць аб царох. Аб „нябеснасьці" цароў павінен быў гаварыць і ўнутраны выгляд царквы. Тут у першую чаргу з гэтай мэтай выкарыстоўваліся іконы. Спосабаў, якімі з дапамогаю іконы праводзіўся монархічны прынцып, было многа. Ужо самае іх зьяўленьне зьвязана было з абагатварэньнем цароў. „Ікона ўзьнікла ў Візантыі ў падражаньне тым выбражэньням імпэратара і імпэратрыцы, якія, калі апошнія займалі прастол, рассылаліся па провінцыям.

[1]) З перапіскі менскага архірэя Міхаіла, ліст № 379. Бел. Дзярж. Музэй.
[2]) Там-жа, ліст ад 11 лютага 1852 года.

[3]) Товаров — Историко-статистический справочник Минской епархии. Минск 1903 г., стр. 18.
[4]) Там-жа, стар. 18

Там яны су стракаліся ўладаю і народам, які павінен быў у гэты час трым... запаленыя сьвечкі, і ставіліся ў галоўных араторыях для агульнага ўшанаваньня. Адсюль усе формальныя прызнаньні царскіх портрэтаў былі перанесены, часта разам з характарам акружэньня (напрыклад, імпэратарскі трон), на выабражэньне хрысьціянскіх сьвятых і раней за ўсё, богамацеры.

Маляваньне сьвятых на манер цароў было ўласьціва пя толькі ранейшым часам хрысьціянства. Гэта захавалася да апошняга часу. Нават больш таго. Былі выпадкі, калі ікона зьяўлялася поўным портрэтам цароў і іх блізкіх. Такі цікавы



Ікона таго-ж мастака. У выглядзе „сьвятой“ даецца портрэт Кацярыны II, а „анёл“, які спускаецца да яе, каханак Кацярыны—Пацёмкін (ікона ў Магілеўскім саборы).



Імпэратар Аўстрыі Іосіф II ў выглядзе сьвятога (ікона ў Магілеўскім саборы).

прыклад мы маем у Магілеве. Магілеўскі сабор быў пабудаваны ў памяць наведаньня гэтага гораду Кацярынай другой і аўстрыйскім імпэратарам Іёсіфам другім. Іконы маляваў для гэтага сабору вядомы мастак таго часу Баравікоўскі. Іконы гэтыя захаваліся да нашага часу. Што-ж мы бачым на іх. На іконе т. з. „благовещение“ анёлам выабражана Кацярына II. На другой іконе Кацярына выабражана сьвятой, а да яе з неба спускаецца анёл: гэты анёл—портрэт любоўніка Кацярыны, вядомага Пацёмкіна. На трэцяй іконе намалёван т. з. сьв. Сямён і тут мы маем портрэт аўстрыйскага імпэратаря Іёсіфа II, толькі яму дароблена барада.

Гэта толькі невялікія прыклады таго, як царква з дапамогаю іконы была пунктам пропаганды монархічных ідэй. Такіх прыкладаў пры жаданьні можна сабраць вельмі шмат. Але і яны гавораць нам, чаму духавенства так ня любіць савецкай улады, ліквідаваўшай монархію, чаму яна, як мага, шкодзіць новаму соцыялістычнаму будаўніцтву.

---

# ЗА БАЛЬШАВІЦКУЮ ПРЫБОРКУ

**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

З гораду
ў колгас.
З узгорку да ўзгорку,
агнявым лёзунгам
абазваўся набат:
У нас на чарзе—
бальшавіцкая прыборка
і бальшавіцкая сяўба.
Трэба—
Значыць жнівярка гудзе,
а тут,—
у простор залатой пагодніцы,
разыдзецца дождж
да йдзе цэлы дзень,
як быццам і ён патурае шкодніцтву.
Мы ўсё-ж такі
шлях ураджаем азорым,
толькі сьмелым,
толькі ўпартым будзь,
і мы
уплянуем сваё надвор'е,
як уплянавалі сваю барацьбу.
І пад ласкавым сонцам,
дзе радасьць сочыцца,
чырвоныя абозы
галасуюць з дарог:
—дадзім ураджай
змагару рабочаму,
каторы
кастрычнік
расьціў і сьцярог.
З гораду
ў колгас,
з узгорку да ўзгорку,
агнявым лёзунгам
абазваўся набат:
у нас на чарзе—
бальшавіцкая прыборка
і бальшавіцкая сяўба!



# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ



Скончана абсталяваньне фосфарытнага заводу ў Крычаве (Магілеўшчына). Завод пушчаны ў ход у маі 1930 г.
**На здымку:** Монтаж сушыльнага барабана.



На Асінбудзе ўжо ўстанаўліваюцца турбіны. Беларусь атрымае першую буйную электрастанцыю. Пабудова станцыі каштавала 62 млн. рублёў. Станцыя дае 20 тысяч кілёват і яе магутнасьць будзе даведзена да 92 тысяч.
**На здымку:** Катлы для электростанцыі



Бабруйск робіцца адным з індустрыяльных гарадоў Савецкай Беларусі. Апрача сваіх шматлікіх прадпрыемстваў, Бабруйск узбагаціўся ў апошнія гады магутным дрэваапрацоўчым комбінатам. Значна вырасьлі кадры пролетарыяту. Гэта прымушае рабочую коопэрацыю менш наладзіць сваю работу па забесьпячэньні рабочага спажыўца. Недахват належнага памяшканьня для добрай сталоўкі значна тармазіў абслугоўваньне патрэб пролетарыяту гораду. Шырокія масы ухвалілі перадаць пад сталоўку мясцовую царкву.
**На здымку:** Сталовая ЦРК у былўшай царкве



На Марынскім балотным масыве работы вядуцца мэханізаваным спосабам.
**На здымку:** землячарпалка на Арэсе.



Расьце савецкі друк. нараджаюцца газэты на фабрыках і заводах, саўгасах і колгасах. Па ініцыятыве ЦК КП(б)Б газэты „Зьвязда" выпушчаецца раённая калгасная газэта ў Клімавічах. Газэта выходзіць раз на тыдзень тыражом у 2000 экз. і распаўсюджваецца дармова сярод калгасьнікаў. Пачала газэта выходзіць у сакавіку 1930 г. і заваявала сымпатыю шырокіх колаў насельніцтва.
**На здымку:** Вёрстка і корэктура Клімавічскай газэты „Комуна".

# ПА САВЕЦКІМ САЮЗЕ !





Вялізарнае будаўніцтва разгорнута ў Баку і Грозным. Будуюцца новыя вышкі для здабычы нафты, хэмічныя заводы, прадпрыемствы па перааапрацоўцы нафты. Для рабочых пабудаваны клюб імя пяцігодзьдзя Грознафты. Клюб пабудаваны інжынэрна-тэхнічнай сэкцыяй у Грозным.

**На здымках:** Зьлева новы завод Грознафты; справа новы клюб Грозьненскіх нафтавікоў.





У Маскву прыехала з Нью-Ёрку рабочая будаўнічая брыгада, якая будзе накіравана ў Н. Ноўгарод на будаўніцтва аўта-заводу. Рабочыя прыехалі на свой уласны рахунак і прывезьлі багата розгага роду мэханізаваных інструментаў. Маскоўскія рабочыя наладзілі рабочай брыгадзе ўрачыстае спатканьне.

**На здымках:** Зьлева прывітальнае выступленьне аднаго з прыбыўшых таварышоў; справа: Мітынг спатканьня маскоўскіх рабочых.



Пабудаваны рабочы гарадок для рабочых Грознафты, куды яны пераселены з сваіх цёмных канурак.

**На здымку: рабочы гарадок у заводзкім раёне**



Каломенскі машынабудаўнічы завод мае 10.000 рабочых і будуе дызэлі, паравозы, нафтаналіўныя судны, трамваі і г. д. 6000 рабочых падалі заявы ў партыю.

**На здымку: Панарама Каломенскага заводу.**

# ЗА МЯЖОЙ

Індэйскі Нацыянальны Конгрэс на чале з Гандзі, распачаўшы кампанію грамадзкага „непастухмяньня“ ангельскім чыноўнікам, не мяркаваў, што гэты рух набудзе вялікія формы і што ангельскі „рабочы“ урад сурова пакарае ўдзельнікаў компані. Віцэ-король Індыі лёрд Ірвін па загаду „рабочага“ ўраду Англіі заявіў, што „пажарную каманду, якую выклікаюць для ліквідацыі пажару, часта робіць вялікія шкоды. Аднак, нікто ня будзе ўскладваць адказнасьць на каманду за пажары, асабліва калі ён зьяўляецца вынікам простага падпалу“. Гэтак ангельскі ўрад абяцае „тушыць“ крывёй рэволюцыйны рух Індыі, калі краіна не „заспакоіцца“.



На здымку: Пасьля асады ангельская паліцыя ў Бомбэі заняла будынак Конгрэсу. Ля будынку ангельская паліцыя і ганарозы каравул, з вольных членаў конгрэсу, якія чакаюць, як паліцыя вывядзе арыштаванага старшыню Савету Конгрэсу Нарымана.




Характэрная асаблівасьць сучаснага руху ў Індыі гэта тое, што нацыянальна-вызваленчы рух ідзе поруч з забастовачнай барацьбой індэйскага пролетарыяту. Забастоўка на Вялікай Індэйскай чыгунцы, забастоўка на буйнейшых фабрыках і заводах, зрабілі Індыю краінай вялізарнага бунту, дзе ангельская ўлада адчувае сябе вельмі дрэнна.

На здымку: Фабрыка, пакінутая забаставаўшымі рабочымі, занята ангельскім войскам.



Нэндза і галеча ў Польшчы набываюць шырокія памеры. Дзесяткі тысяч беспрацоўных, сотні тысяч працуючых тры дні на тыдзень. Шляхта і буржуазія высмоктваюць апошнія сокі з працоўных мас, якія, нават, у Варшаве вымушаны амаль што жыць на вуліцы.

На здымку: Кватэры рабочых.



Байкот ангельцаў у Індыі ўсё больш пашыраецца. Пасьля кампаніі супроць салянай манаполіі, гандзісты абвясьцілі байкот вырабаў эўрапэйскай тэкстыльнай прамысловасьці.

На здымку: Гандзісты паляць на гарадзкім пляцу мануфактуру ангельскага вырабу. Гандзісты апрануты ў мясцовае саматужнае адзеньне.




У чэрвені 1930 г. ў Нямеччыне адбыліся магутныя дэмонстрацыі беспрацоўных супроць наступленьня прадпрыемцаў і фашысцкага ўраду на зарплату рабочых. Наступленьне на рабочую клясу адбываецца пры маўклівай згодзе соцыял-фашыстых.

На здымку: Колёны дэмонстрантаў з плякатамі, якія заклікаюць да салідарнасьці з Мансфэльдзкімі рабочымі.

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны Рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 г.

НА ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДНЯК

**8-мы ГОД ВЫДАНЬНЯ** ● ● ● ● ● ● **ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ**

**„МАЛАДНЯК“** зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую літаратуру

**„МАЛАДНЯК“** на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры

**„МАЛАДНЯК“** будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны)

**„МАЛАДНЯК“** у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, аповесьці, поэмы, вершы, драм. творы)

**„МАЛАДНЯК“** у 1930 годзе зьмесьціць шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік

**У „МАЛАДНЯКУ“** будзе давацца багаты аддзел бібліографіі, хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік

**У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі**

Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ○ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІСЬ „МАЛАДНЯК“ ○ У 1930 годзе ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | | На 6 м-цаў | | На 3 м-цы | | На 1 м-ц | | ЦАНА ў розьнічным продажу |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | — | 1 | 60 | — | 90 | — | 30 | 40 к. |

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

ПАДПІСКУ МОЖНА ПАСЫЛАЦЬ у Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25, або непасрэдна па адрасу рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. 8-77

# ЛЕПШАЯ РЭКЛЯМА

Ў АДЗІНЫМ Ў БССР—ДВОХТЫДНЁВЫМ ІЛЮСТРАВАНЫМ ЧАСОПІСУ „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

## ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ ПРАЦОЎНЫХ ЧЫТАЮЦЬ „ЧЫРВОНУЮ БЕЛАРУСЬ“

ОРГАНІЗАЦЫЯМ СКІДКА. ЗВАНЕЦЕ ПА ТЭЛЕФОНАМ №№ 17-12, 7-41 І ДА ВАС БУДЗЕ ВЫСЛАНЫ ПРАЦАЎНІК ДЛЯ ПРЫЁМУ АБВЕСТКІ

ЗЬМЯШЧЭНЬНЕ АБВЕСТКІ У ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ **ГАРАНТУЕ ПОЎНЫ ПОСЬПЕХ**

ПЕРШЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВЫ ЧАСОПІС

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**24 НУМАРЫ**

і

ШТОМЕСЯЧНЫ БЕЛАРУСКІ ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ ........

# „ПОЛЫМЯ“

**12 КНІЖОК**

## замест 12 рублёў—

## толькі 10 руб.

Падпісчыкі, якія ўнясуць пры падпісцы поўнасьцю 10 рублёў, атрымаюць на працягу 1930 г. адразу два часопісы— **„Чырвоная Беларусь“ і „Полымя“.** Падпісчыкі час. **„Полымя“,** якія ўжо ўнеслі гадавую плату, будуць атрымліваць час. **„Чырвоная Беларусь“ дармова.**

### ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА 1930 ГОД

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“**

На 1 год . . . . . **3** р.
„ паўгода . . . . **1** р. **50** к.
„ 3 месяцы . . . — **75** к.
Цана асобн. нумару — **15** к.

**„ПОЛЫМЯ“**

На 1 год замест **12** р.—**10** руб.
„ паўгода . . . . — **5** руб.
„ 3 месяцы . . . — **3** руб.
Цана асобн. нумару — **1** руб.

### ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:

**Бюро падпіскі БДВ (Менск, Савецкая, 63), яго агентура, акруговыя аддзяленьні і ўсе кнігарні БДВ, кіёскі контрагэнцтва друку, усе пошты і лістаносцы ў гарадох і вёсках БССР**

Друкарня БДВ. Зак. № 1139. Галоўлітбел № 1031.